

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 13 (801) 28 САКАВІКА 2007 г.**

## *Жыў беларус і будзе жыць*

### 25 сакавіка адсвяткавалі Дзень Волі




Сёлета 25 сакавіка святочныя мерапрыемствы ішлі па ўсім Менску. Цэнтр горада быў расквечаны бел-чырвона-белымі сцягамі, а ў аэрапорце Менск-1 і каля Нацыянальнай бібліятэкі луналі чырвона-зялёныя. Да яднання справа пакуль не дайшла, але ўсяму свой час. Прынамсі лозунгі, якія гучалі на фестывалі, арганізаваным БРСМ, былі прыймальныя і для тых, хто сабраўся каля Акадэміі навук. "За незалежную Беларусь", - хто ж можа быць супраць!

Сябры ТБМ прынялі актыўны ўдзел у святкаванні Дня Волі каля Акадэміі навук. Сюды былі дастаўлены многія сотні газет "Наша слова", "Новы час", каляндарыкаў, прысвечаных юбілеям Алеся Гаруна і Янкі Брыля. Не абышлося і без казусаў. Пільныя міліцыянты затрымалі на подступах да Акадэміі кіраўніка спраў ТБМ Сяржука Гуркова і канфіскавалі 67 нумароў "Нашага слова". Гуркова з "Нашым словам" даставілі ў пастарунак. Разабраліся, балазе ў хлопца пашпарт быў пры сабе, Гуркова выпусцілі, газеты, мабыць, пазней вернуць.

Сябры ТБМ вялі збор ахвяраванняў на дзейнасць Таварыства, сабралі больш за 300 тысяч беларускіх рублёў і 10 долараў ЗША.

Як абвясціла БТ, фестываль "За незалежную Беларусь" будзе доўжыцца да 3 ліпеня. Калісьці падчас паўстанняў 1831 і 1863 гадоў быў папулярны лозунг: "За нашую і вашую волю". Сёлета ў Беларусі ўзнік новы дэвіз: "Ад нашай незалежнасці да вашай" або "Ад вашай незалежнасці да нашай". Як каму падабаецца.

"Незалежнасці" пакуль розныя, але Беларусь ужо адна, адна на ўсіх вольная, незалежная, свая.

***Яраслаў Грынкевіч.***

## Нашы бліжэйшыя задачы і мэты

За апошнія месяцы праца сяброў ТБМ у Менску і рэгіёнах значна актывізавалася і ёсць станоўчыя вынікі ў стасунках з уладай. Дзякуючы нашым намаганням і тысячам падпісаў грамадзян Беларусі з'явіўся дэкрэт аб святкаванні 125-х угодкаў Янкі Купала і Якуба Коласа. Ужо зараз неабходна звяртацца да мясцовых уладаў, каб яны адкрывалі нацыянальныя гімназіі імя нашых знакамітых паэтаў. Нашы сябры ў Магілёве дасягнулі дамовы з мясцовым недзяржаўным тэлеканалам каб кожны дзень жыхары горада чыталі з экрана вершы Янкі Купалы. І ахвочых шмат.

Актывізавалася гомельская абласная арганізацыя і дасягнула амаль немагчымага. 12 сакавіка яна была зноў пастаўлена на улік гомельскім упраўленнем юстыцыі. Было б добра, каб зараз гэта зрабіла і Гомельская гарадская арганізацыя ТБМ.

Таксама мы дамагліся пашырэння выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы на гомельскім гарадскім грамадскім транспарце. Добра працуюць нашыя сябры ў Жыткавічах і Жыткавіцкім раёне, у Светлагорску і Мазыры, дзе ў другім квартале дзякуючы Людміле Піскун значна пашы-рана падпіска на "Наша слова".

На Берасцейшчыне актывізавалася наша праца ў Баранавічах, Пружанах, Белаазёрску, Кобрыне. Нам удалося разам з ЗБС "Бацькаўшчына" і Саюзам беларускіх пісьменнікаў, дабіцца таго, што новы храм, які зараз будуецца ў Кобрыне не будзе прысвечаны Аляксандру Сувораву, чалавеку які меў непасрэднае дачыненне да акупацыі Беларусі Расійскай імперыі у ХУІІІ ст. І будзем спадзявацца, што на Кобрыншчыне зноў адновіцца дзейнасць суполкі ТБМ .

Дзякуючы нашым намаганням у Лідзе і іншых гарадах улады дазволілі адзначаць 450 гадоў з дня нараджэння Льва Сапегі, выдатнага беларускага дзеяча ХУІ-ХУІІ стст. Таксама ўлады пацвердзілі свой намер паставіць помнік Льву Сапегу у Слоніме.

Сабрана болей за 1100 подпісаў грамадзян на Лідчыне за адкрыццё ў Лідзе нацыянальнага універсітэта, за вяртанне ў адукацыйныя стандарты ВНУ беларускай мовы за вяртанне выкладання гісторыі і геаграфіі у рускамоўных школах Беларусі па-беларуску. І трэба адзначыць актыўную пазіцыю ў гэтым пытанні газеты "Звязда". Трэба прадоўжыць збор подпісаў па гэтым пытанні, пакуль яно не будзе вырашана станоўча.

Шмат подпісаў сабрана ў Віцебску, Полацку, Наваполацку, Шаркаўшчыне і іншых раёнах Віцебскай вобласці.

На Меншчыне трэба аддзначыць добрую працу сяброў ТБМ на Мядзельшчыне, у Слуцку, Салігорску, Валожыне Вілейцы, Смілавічах і ў Дзяржынскім раёне. Зараз ідзе падрыхтоўка да правядзення Менскай абласной справаздачна-выбарчай канферэнцыі. У Менску зноў стала выходзіць газета "Новы час", якую заснавала Менская гарадская арганізацыя. Тут найлепш працуюць нашы сябры ў Фрунзенскім, Ленінскім, Партызанскім і Заводскім раёнах. Тут актыўна збіраюцца складкі і ахвяраванні. Актыўна ўступаюць у ТБМ новыя сябры.

Неузабаве мы надрукуем каляндарыкі да юбілеяў Алеся Гаруна і Янкі Брыля. Але гэта патрабуе пэўных грашовых сродкаў, таксама павялічылася плата за арэнду і асабліва камунальныя паслугі у сядзібе ТБМ. Таму я вельмі прашу паскорыць збор сяброўскіх складак сяброў ТБМ з Берасця, Пінска, Івацэвіч, Ліды, Ваўкавыска, Воршы, Глыбокага, Пастаў, Горак, Мсціслава, Хоцімска, Жодзіна, Пухавічаў, Мар'інай Горкі, Маладзечна, Цэнтральнага, Савецкага і Маскоўскага раёнаў Менска. Калі своечасова паступяць складкі з рэгіёнаў, мы зможам актыўна працаваць і надалей. Таму за працу сябры!

З павагай і ўдзячнасцю за добрую працу,

***Старшыня ТБМ***
***Алег Трусаў.***

## Выдавецтву "Мастацкая літаратура" - 35 гадоў

***Спадару У.А. Мачульскаму,***
***Дырэктару выдавецтва "Мастацкая літаратура",***
***220600, Мінск, пр. Пераможцаў 11***

**Паважаны Уладзіслаў Антонавіч!**

Таварыства беларускай мовы віншуе Вас і ўсіх супрацоўнікаў з 35-й гадавінай з дня заснавання выдавецтва "Мастацкая літаратура". Цягам гадоў у гэтай установе пабачылі свет лепшыя ўзоры беларускай і сусветнай класікі. Вялікім попытам карысталіся кнігі такіх серый, як "Бібліятэка беларускай драматургіі", "Бібліятэка беларускай прозы", "Бібліятэка беларускай паэзіі", "Бібліятэка замежнай прозы"; штогоднікі: "Дзень паэзіі", "Далягляды", "Сучаснік". Яны давалі досыць поўнае ўяўленне пра літаратурнае жыццё краіны і свету.

Вам, спадар Мачульскі, давялося ўзначальваць выдавецтва ў новых эканамічных умовах і палітычных варунках. Шмат што змянілася. На жаль, не заўсёды на лепшае. Але Таварыства верыць у тое, што Вы здолееце пераадолець часовыя цяжкасці ды возьмеце на ўзбраенне той досвед, які быў назапашаны папярэднікамі, у тым ліку і тымі, што закладвалі падмурак выдавецкай дзейнасці. Гэта Мікола Ткачоў і Міхал Дубянецкі.

Зычым калектыву "Мастацкай літаратуры" плёну ў прапагандзе беларускага слова. Верым, што недалёка той час, калі нашы славутыя беларускія пісьменнікі, прызнаныя ва ўсім свеце майстры мастацкага слова, зноўку атрымаюць магчымасць друкаваць свае творы ў дзяржаўным выдавецтве.

Спадзяёмся, што дзякуючы Вашаму выдавецтву неўзабаве пабачыць свет збор твораў Васіля Быкава.

У гэта верым!

З павагай

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** **Алег Трусаў.**

## Усё пра Міколу Ермаловіча

Пад 25 сакавіка ў Менску пабачыла свет кніга пра выдатнага беларуса, гісторыка Божай міласцю, Міколу Ермаловіча.

Кніга падрыхтавана менскім клубам "Спадчына", які ўзначальвае Анатоль Белы, няўтаймавальны змагар за захаванне і адраджэнне нашай нацыянальнай гістарычнай і культурнай спадчыны.

У кнігу ўвайшлі, сабраныя з усяго свету ўспаміны і артыкулы пра Міколу Ермаловіча, значная частка лістоў Міколы Ермаловіча, амаль поўны збор "Гутарак" і вершаў Міколы Ермаловіча, фотадакументы. 360 старонак кнігі ўтрымоўваюць столькі інфармацыі пра народнага гісторыка, колькі разам нідзе і ніколі не збіралася.

Прэзентацыя кнігі мае адбыцца ў Менску на гэтым тыдні, хаця планавалася перад 25 сакавіка, але традыцыйныя ўжо для Беларусі неўвязкі з памяшканнем не далі зрабіць гэта перад святам. Што ж, зробленае Ермаловічам вечнае, і некалькі дзён у гэтай вечнасці нічога не зменяць.

***Наш кар.***



# “Сувораўскаму храму” не быць!



БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ САВЕТ ДЭПУТАТАЎ

вул. Леніна, 11, 224005 г. Брэст
тэл. (0162) 23 54 86, факс. 21 14 54

БРЕСТСКИЙ ОБЛАСТНОЙ СОВЕТ ДЕПУТАТОВ

ул. Ленина, 11, 224005 г. Брест
тел. (0162) 23 54 86, факс. 21 14 54

17.03.2007 № 72

На №________ от____________

**Председателю ОО «Товарищество белорусского языка им. Ф.Скорины»**
**А. Трусову**
**г. Минск, ул. Румянцева, 13**

**О строительстве в г.Кобрине православного храма**

На ваше обращение от 20 января 2007 года сообщаем, что в городе Кобрине Брестской епархии с 2004 года осуществляется строительство приходского храма в честь Рождества Христова в память 60-летия освобождения Беларуси от фашистских захватчиков. Закладка нижнего храма в честь преподобного Сергия Радонежского была совершена в памятную годовщину освобождения г. Кобрина.

Согласно решения Брестского облисполкома от 04.02.2005 №62 храм расположенный по ул. Дружбы, 53 г. Кобрина носит официальное название «Свято-Христорождественская церковь г. Крбрина-храм-памятник 60-летия освобождения Беларуси».

Каких-либо обращений, предложений о придании строящемуся церковному зданию статуса Суворовского храма-памятника в Брестский областной Совет депутатов не поступало.

Вопрос о статусе церковных строений является исключительной прерогативой Белорусской Православной Церкви.

По имеющейся информации, Белорусская Православная Церковь, не располагает документами, которые свидетельствовали бы о том, что намерения и проекты, связывающие строительство Кобринского храма Рождества Христова с именем А.В. Суворова, получали благословение Священноначалия.

В связи с этим вопросы и комментарии по данной теме должны адресоваться первичному источнику информации, а также тем гражданам и общественным организациям, которые инициировали и поддерживают дискуссию по данному вопросу.

**Председатель областного Совета депутатов С.Д. Ашмянцев.**

---

17.03.2007 № 01-06/18
На № 5/11 от 20.02.2007

Кіраўніку Міжнароднага грамадскага аб'яднання “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” Марачкіну А.
Копіі:
Старшыні Грамадскага аб'яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” Трусаву А.
Старшыні Грамадскага аб'яднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў” Пашкевічу А.

**Аб будаўніцтве праваслаўнага храма ў г Кобрыне**

На ваш зварот ад 20 лютага 2007 года паведамляем, што ў г. Кобрыне не вядзецца будаўніцтва ніякага “Суворaўскага храма”. Такая назва неабгрунтавана была прысвоена адной з новабудоўляў праваслаўнага храма некаторымі сродкамі масавай інфармацыі і асобнымі прадстаўнікамі грамадскасці г. Кобрына.

Рашэннем Брэсцкага аблвыканкама ад 02.09.2003 № 460 была зарэгістравана абшчына “Православный приход Спасо Рождественской церкви” г. Кобрынэ (вул. Дружбы, 53).

18 ліпеня 2004 года ў дзень святкавання Дня горада і 60-годдзя вызвалення Кобрына ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў праведзена асвячэнне месца пад будаўніцтва новай праваслаўнай царквы, а яе настаяцелю была перададзена капсула з пасланнем да будучых пакаленняў кабрынчан.

Згодна рашэнню Брэсцкага аблвыканкама ад 04.02.2005 № 62 абшчына стала называцца “Православный приход Свято-Христорождественской церкви г. Кобрина - храма-памятника 60-летия освобождения Беларуси Брестской епархии Белорусской Православной церкви (Белорусского Экзархата Московского Патриархата)”.

**Старшыня Кобрынскага раённага Савета дэпутатаў М.М. Кавалевіч.**

---



КОБРЫНСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

пл. Леніна, 3, 225306 г. Кобрын
Брэсцкай вобл., тэл. 2-22-50, факс 2-88-92, 2-88-93

КОБРИНСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

пл. Ленина, 3, 225306 г. Кобрин
Брестской обл., тел. 2-22-50, факс 2-88-92, 2-88-93

13.03.2007 № 01/10
На № 5/11 от 20.02.2007

**Старшыні Грамадскага аб'яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” Трусаву А.**

**Аб будаўніцтве праваслаўнага храма ў г. Кобрыне**

На ваш зварот ад 20 лютага 2007 года паведамляем, што ў г. Кобрыне не вядзецца будаўніцтва ніякага “Суворaўскага храма”. Такая назва неабгрунтавана была прысвоена адной з новабудоўляў праваслаўнага храма некаторымі сродкамі масавай інфармацыі і асобнымі прадстаўнікамі грамадскасці г. Кобрына.

Рашэннем Кобрынскага райвыканкама ад 10.10.2003 № 969 рэлігійнай абшчыне, якая была зарэгістравана па адрасу г. Кобрын, вул. Дружбы, 53, быў выдзелены зямельны надзел плошчай 2,2 гектара.

18 ліпеня 2004 года ў дзень святкавання Дня горада і 60-годдзя вызвалення Кобрына ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў праведзена асвячэнне месца пад будаўніцтва новай праваслаўнай царквы, а яе настаяцелю была перададзена капсула з пасланнем да будучых пакаленняў кабрынчан.

Згодна рашэнню Брэсцкага аблвыканкама ад 04.02.2005 № 62 храм па вул. Дружбы, 53 называецца “Свято-Христорождественская церковь г. Кобрина - храм-памятник 60-летия освобождения Беларуси”.

**Намеснік старшыні раённага выканаўчага камітэта В.П. Іванюк.**

---

*А. Грыцкевіч*

# Леў Сапега

## Да 450 – годдзя з дня нараджэння

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Дарэчы, другі патрыярх маскоўскі быў у Маскве пры цары Васіліі Шуйскім. Кіраванне дзяржавай было ў цара і Баярскай думы. Законы змяняліся толькі са згоды баяраў і "ўсёй зямлі" (Земскага сабору). Забараняўся ўсякі пераход сялянаў, як у самой Русі, так і з Маскоўскай дзяржавы ў Беларусь і наадварот. Польскія і беларускія войскі часова заставаліся ў Маскоўскай дзяржаве на занятых імі тэрыторыях. Купцы Рэчы Паспалітай мелі права свабодна гандляваць у гарадах Расіі, а расійскія ў гарадах Рэчы Паспалітай. Каталіцкай царкве дазвалялася пабудаваць касцёл у Маскве "для набажэнства людзей польскіх і літоўскіх". Потым расійскія гісторыкі ўсіх кірункаў і савецкія гісторыкі аднадушна называлі гэты дагавор "здрадніцкім".

Ад моманту заключэння дагавору ад 14 лютага 1610 г. Леў Сапега, знаходзячыся ў лагеры пад Смаленскам, адначасова ўзначальваў не толькі дзяржаўную канцылярыю караля і Вялікага князя Жыгімонта III, адкуль зыходзілі прывілеі для Вялікага Княства Літоўскага, але і маскоўскую канцылярыю, якая раздавала граматы на маёнткі расійскім баярам і дваранам і выдавала іншую дзяржаўную дакументацыю (бо кароль дзейнічаў ад імя свайго 15-гадовага сына, запрошанага пасольствам на Маскоўскі трон).

Пасля поўнай перамогі 4 ліпеня (24 чэрвеня) 1610 г. войска гетмана польскага кароннага Станіслава Жалкеўскага, якое складалася з польскіх і беларускіх коннікаў і украінскіх казакоў і налічвала 6525 чалавек, над 35-тысячнай маскоўскай арміяй бяздарнага палкаводца князя Дзмітрыя Шуйскага (брата цара) пад Клушынам (ля Гжацка) С. Жалкеўскі пайшоў на Маскву. Калі там даведаліся аб ганебнай паразе маскоўскага войска, цар Васіль Шуйскі быў скінуты з трона і створаны баярскі ўрад ("сямібаяршчына"). Гэты ўрад падпісаў у жніўні дагавор з С. Жалкоўскім, аналагічны дагавору ад 14 лютага 1610 г. "Сямібаяршчына" перадала трон Уладзіславу Жыгімонтавічу, які афіцыйна быў абвешчаны царом Расіі. Яму прынеслі крыжацалавальную прысягу і далі грамату з подпісамі баяры, дваране і прадстаўнікі горада Масквы і іншых расійскіх гарадоў.

С. Жалкеўскі адправіў з Масквы пад Смаленск да караля вялікае баярскае пасольства прасіць караля адпусціць сына на царскі трон і згадзіцца на прынятае Уладзіславам празаслаўя. У склад пасольства С. Жалкеўскі ўключыў усіх магчымых прэтэндэнтаў на царскі трон і найбольш вядомых дзеячаў тушынскага патрыярха Філарэта (Раманава) і князя В.В. Галіцына. Пасля гэтага С. Жалкеўскі ад'ехаў з Масквы, захапіўшы з сабой Васіля Шуйскага і двух яго братоў (усе яны памерлі ў Польшчы). Пад Смаленскам і вёў перамовы з вялікім маскоўскім пасольствам Леў Сапега. Паколькі маскоўскія паслы не ішлі на саступкі, то па загаду караля 12 сакавіка 1611 г. Леў Сапега абвясціў маскоўскім паслам, што яны арыштаваныя, і што яны іх адсылаюць у Польшчу да каца вайны.

Пасля ўзяцця Смаленска каралеўскімі войскамі ў чэрвені 1611 г. Леў Сапега разам з каралём Жыгімонтам вярнуўся ў Вільню і пачаў рыхтаваць скліканне сойму. На павятовых сойміках, на якіх выбіраліся паслы (дэпутаты) на сойм, і на перадсоймавым з'ездзе дэпутатаў ад Вялікага Княства Літоўскага ў Слоніме (верасень 1611 г.) ён прапанаваў далучыць да Вялікага Княства Літоўскага ўжо занятую польска-беларускімі войскамі тэрыторыю Смаленшчыны, а да Польшчы (да яе ўкраінскіх зямель) тэрыторыю Севершчыны. З такой жа прапановай Леў Сапега выступіў і на сойме.

У канцы 1611 г. Леў Сапега ў Варшаве ўдзельнічаў у перамовах з новым маскоўсдкім пасольствам князя Юрыя Трубяцкога і баярына Міхаіла Марозава, якія прыехалі з просьбай маскоўскага ўрада хутчэй адпусціць каралевіча ў Маскву. Аднак у няпэўнай сітуацыі ў Расіі Жыгімонт не адпусціў сына ў Маскву.

Але ўжо восенню 1612 г. Сапега сам удзельнічаў у новым паходзе на Маскву. Адначасова з гетманам найвышэйшым літоўскім Янам Каралем Хадкевічам і разам з каралём і яго сынам, якога цяпер вырашылі пасадзіць царом у Крамлі. Аднак час быў ужо страчаны. Войскі другога рускага апалчэння, якімі камандаваў князь Дзмітры Пажарскі, не дапусцілі невялікае войска Хадкевіча да Крамля, дзе засела польска-беларуская залога, і пасля баёў у самой Маскве Хадкевіч вымушаны быў адступіць. Сапега не выканаў сваю місію пасадзіць на маскоўскім троне цара Уладзіслава.

У наступныя гады Леў Сапега цалкам узначаліў усходні кірунак палітыкі Рэчы Паспалітай, дбаючы перш за ўсё пра інтарэсы Беларуска-Літоўскай дзяржавы. На сойме 1616 г. Леў Сапега выступіў з новай прапановай аб падрыхтоўцы вайсковай экспедыцыі на Маскву і прапанаваў шляхце засяліць далучаныя падчас вайны землі на ўсходзе і эканамічна падымаць іх пасля ваеннай руіны. Ён пераканаў шляхецкіх дэпутатаў разам з іншымі сенатарамі ухваліць новыя падаткі на два гады для вайсковага паходу.

Урэшце ў ліпені 1617 г. каралевіч і цар маскоўскі (паводле тытулу) Уладзіслаў і гетман Я.К. Хадкевіч з войскам вырушылі ў паход Канцлер Л. Сапега выставіў са сваіх уладанняў у войска дзве роты: гусарскую (200 коннікаў) і пяхотную (100 чалавек). Сам Леў Сапега суправаджаў войска каралевіча. Былі заняты Дарагабуж і Вязьма. Аднак войска было невялікім, а жаўнеры не атрымоўвалі грошай. Частка галодных жаўнераў пакінула войска.

Каб узмацніць войска Уладзіслава і Хадкевіча. Л.Сапега вярнуўся ў Вільню і сабраў громы для войска. Адначасова ён дамовіўся з гетманам украінскіх казакоў Пятром Канашэвічам-Сагайдачным аб паходзе ўкраінскіх казакоў на Маскву. Аднак сойм 1618 г. грошай на працяг кампаніі не даў і выказаўся за мірныя перамовы з Масквой. Сапега вымушаны быў з гэтым пагадзіцца. Але ўсё ж выслаў на дапамогу Уладзіславу вайсковыя падмацаванні, у тым ліку эскадроны беларускіх татараў.

У кастрычніку 1618 г. каралевіч Уладзіслаў, гетманы вялікі літоўскі Ян Караль Хадкевіч і ўкраінскі Пётр Сагайдачны падышлі да Масквы. Уладзіслаў знаходзіўся ў сяле Тушына, а Сагайдачны з казакамі – каля Данскога манастыра. Аднак агульны штурм Масквы вынікаў не даў, не былі ўзяты таксама Мажайск і Троіцка-Сергіеў манастыр. У гэты час Сапега вярнуўся да каралевіча пад Маскву. Вычарпаныя баявыя рэсурсы і значныя страты ў людзях прымусілі абодва бакі пайсці на перамовы. У гэтых перамовах Л. Сапега быў адным з чатырох паслоў ад Рэчы Паспалітай.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# ГАСПАДЫНЯ ШЫКОЎНАЙ ГАСЦЁЎНІ

## (успамін пра Тамару Грузнову)



У суботу 24 сакавіка 2007 года мінула роўна 40 дзён з таго трагічнага моманту, як пасля раптоўнай і цяжкай хваробы не стала з намі вельмі сціплага, але пры гэтым самаахвярнага і надзвычай адданага сваёй справе чалавека – Тамары Іванаўны Грузновай, — жанчыны, якая амаль восем апошніх гадоў свайго жыцця ці не цалкам прысвяціла святой і высакароднай справе Беларускага нацыянальнага адраджэння.

Да 1999 г., пакуль сп-ня Тамара была выхавацелькай дзіцячага садка ДП "Менскцепласеткі", яна дамагалася ягонай беларусізацыі. Праз гады на старонках часопіса "Пралеска" былыя выхаванцы садка спадарыню Тамару ўзгадвалі цёплымі словамі.

Калі Тамара Грузнова сышла на пенсію, яна некаторы час працавала ў сядзібе Беларускага народнага фронту, потым – у Таварыстве беларускай мовы. Энергічная жанчына з'яўлялася старшынёй суполкі ТБМ Ленінскага раёна, збірала складкі, распаўсюджвала газету "Наша слова", апошнія гады была тэхнічнай сакратаркай цэнтральнай сядзібы ТБМ.

Дзякуючы чалавечым якасцям маленькай інтэлігентнай жанчыны, якая хварэла за справу душой, да раённай суполкі далучаліся людзі, і згуртаванне беларусафілаў стала адным з найвялікшых у Менску.

13 лютага ў кватэру да сп-ні Тамары прыйшлі далёкія сваякі, сябры, знаёмыя. Усе ўзгадвалі яе гасціннасць, гатоўнасць прыйсці на дапамогу. Імя Тамары Грузновай вядома далёка за межамі Серабранкі. У яе доме рабілася беларуская гісторыя. Тут рэгулярна збіралася Свіслацкая рада БНФ, праводзіліся сустрэчы і каардынацыя дзейнасці ўсіх дэмакратычных сілаў Ленінскага раёна. Сустрэчы ў Грузновых заўсёды вызначаліся цеплынёй і душэўнасцю. У іх бралі ўдзел такія знакавыя асобы, як Зянон Пазьняк, Вінцук Вячорка, Аляксандр Дабравольскі, Валянціна Палевікова, Алег Трусаў, Васіль Лявонаў, Павел Казлоўскі, Лявон Баршчэўскі, Станіслаў Гусак, Юры Хадыка, Уладзімір Мацкевіч, Іна Кулей ды іншыя. "Яна была сапраўднай гаспадыняй", – згадвае былы кіраўнік Свіслацкай рады Барыс Драздоўскі.

Падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў Тамара прапанавала размясціць у сваёй кватэры штаб Аб'яднаных дэмакратычных сілаў, пры гэтым яна актыўна агітавала і збірала подпісы за адзінага кандыдата.

Так склалася, што ў Тамары не было дзяцей. Мабыць таму ўсю нерастрачаную цеплыню і спагаду Тамара дарыла мужу Валеру і людзям, якія былі вакол яе.





За гэта яе цанілі, любілі і шанавалі.

Старшыня ТБМ *Алег Трусаў* згадвае: "Тамара Грузнова — чалавек, які ўсё сваё жыццё паклаў на канкрэтную працу для адраджэння беларушчыны ў нашай краіне. Яна актыўна працавала і ў Таварыстве беларускай мовы, і ў Беларускім народным фронце. Гэта той чалавек, які ўвесь час рабіў штодзённую, шэрую, вельмі патрэбную працу — збірала подпісы, стаяла ў пікетах, займалася падпіской, зборам ахвяраванняў. Вельмі добра кіравала Ленінскай раённай арганізацыяй ТБМ, і арганізацыя яе была ўзорнай. Яна разам з мужам і сябрамі даглядала крыж ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў у Лошыцы. Пакуль ёсць такія людзі, як была Тамара Грузнова, беларуская мова будзе жыць вечна".





Тамара Грузнова нарадзілася ў Рагачове. Пасля заканчэння ў 1968 годзе Менскай педагагічнай вучэльні стала выхавальніцай дзіцячага садка, дзе была адной з ініцыятарак пераводу выхаваўчага працэсу на беларускую мову. У 1999 годзе ў выніку рэарганізацыі саду была звольненая, пасля чаго цалкам прысвяціла сябе грамадскай працы. Апошнія пяць гадоў Тамара Грузнова была тэхнічнаю сакратаркаю сядзібы ТБМ. Гаворыць намеснік старшыні ТБМ *Сяржук Кручкоў*:

*Кручкоў*: "Яна была вельмі адданым чалавекам, вельмі шчырым. Гэтая яе цеплыня кожны дзень адчувалася ў нашай сядзібе. І мы вельмі смуткуем з нагоды яе смерці і выказваем спачуванні яе мужу Валеру, таксама вельмі шчыраму беларусу".

Сябра менскай арганізацыі ТБМ Ленінскага раёна сп. *Сяргей Атрашэнка* ўспамінае:

"Гаспадыня шыкоўнай гасцёўні, - так называлі Тамару Іванаўну Грузнову яе сябры і аднадумцы супрацоўнікі.

Два пакойчыкі кватэры спадарыні Тамары і яе мужа Валерыя ў Менскай Серабранцы насамрэч былі дзейсным асяродкам раённай суполкі ТБМ, якую Тамара Іванаўна ачольвала цягам некалькіх гадоў. Тут віравала жыццё своеасаблівага дэмакратычнага клуба. Гаспадары рабілі ўсё ад іх залежнае, каб толькі справа нацыянальнага Адраджэння гуртавала вакол людзей, неабыякавых да будучыні Беларусі.

У Тамарынай гасцёўні праводзіліся вечарыны, адбываліся сустрэчы, узнікалі і здзяйсняліся неардынарныя задумкі; гасцей чакала свежазаваранaя кава, гарбата, заўсёдная радасць сяброўскіх суадносін.

Была нагода да прачытання ў гасцёўні маіх кволых замалёвак аб некаторых знакамітых наведвальніках Тамарынага кутка беларускасці..."

У памяць аб Тамары Грузновай сп. Атрашэнка напісаў ці не цэлую баладу, урывак з якой мы прапануем чытачам "Нашага слова":

У Тамары, цудоўнай жанчыны,
Усё ў жыцці паслядоўна і чынна:

Нараджэнне, вучоба, каханне,
А па сталасці, — шлюбам пабранне,

Спадзяванні на перабудову,
Што праводзілі пры Гарбачову.

Толькі тыя растаялі мрыі,
Як настаў постсавецкі перыяд.

І самохаць прыйшло ўсведамленне,
Што твой шлях — БНФ "Адраджэнне".

Што любіць Беларусь — значыць дзеяць,
Бараніць ад манкуртаў ідэю,

Незалежнай і вольнай Краіны,
Як жыццё, як матулю, як сына...

Праўду ў народзе кажуць: "Чалавек жыве столькі, колькі жыве памяць аб ім". Дык будзьма ж заўсёды памятаць светлага і добрага чалавека – Тамару Іванаўну Грузнову.

***Падрыхтаваў Сяржук Гуркоў.***

***На здымках:*** *Тамара Грузнова; у сядзібе БНФ; з мужам каля бацькоўскай хаты; зсябрамі ў сядзібе ТБМ.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 3. 2007 г. у 10.00. Замова № 699.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1640 руб., 3 мес.- 4920 руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.